№ 16 (3757)

26 лютага 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

# Лукавые цифры

**Беру «жировку» и вспоминаю старый советский анекдот про сантехника. Сошлись трое в тюремной камере, знакомятся. Один говорит:**

**— Я вор, статья за кражу».**

**Другой: — Я шофер. Авария.**

**Третий: —А я сантехник. Политический.**

**— Как это???**

**— Да пришел в обком партии кран чинить, посмотрел и говорю: «Здесь не только кран, здесь всю систему менять надо!**

**Вот и у нас про то, что надо менять систему, недавно даже газета «Советская Белоруссия» написала. Правда, газету не только не накажут, но похвалят даже. А дело было так.**

**«СБ» решила продемонстрировать, как ничтожно мало мы платим за жилищно-коммунальные услуги: зимой — всего 13,1% от себестоимости этих услуг, летом — 17,7%. Соответственно, несложно подсчитать, что если бы платили как положено, то типовая двушка в отопительный сезон стоила бы без малого 2 миллиона рублей, летом — 945 тысяч. Доброе у нас государство! Но не безмерно. Потому к 2016 году, как запланировало правительство, придется платить по полной стоимости, без скидок. А это значит, что с учетом стабильности обесценивания белорусского рубля в 2 миллиона за небольшую квартиру вряд ли впишемся.**

**Главная газета Администрации президента сенсации в этом не видит. Даже сейчас, при нынешних доходах людей, сумма в 2 миллиона за обычную квартиру им не кажется чем-то шокирующим. Лихо подсчитали, что если в семье двое работающих, а средняя зарплата в декабре составила 4 миллиона 741 тысячу рублей, то всего-то 20% дохода уходило бы на оплату квартиры зимой (и еще меньше летом). «Пропорция — как в Европе!» — успокаивает «СБ». И упоминание Европы здесь действительно важно.**

**Дело в том, что наша пропаганда, не моргнув глазом, включает в европейские показатели по квартплате не только стоимость услуг ЖКХ, но и стоимость аренды жилья. Хотя если бы по аналогичной методике выводили белорусский показатель, то к цифрам в жировках надо было бы добавлять те 300—400 долларов, которые платят те, кто снимает квартиру. А вот если сравнивать корректно, то выяснится, что мы являемся свидетелями некоего экономического чуда.**

**Так, по подсчетам Немецкого союза квартиросъемщиков, расходы на жилищно-коммунальные услуги составляют в Германии в среднем ежемесячно 2,16 евро за квадратный метр общей площади. То есть наша средняя двушка по их расценкам обойдется в 100—150 евро (при средней зарплате 2500 евро).**

**Италия. Содержание инфраструктуры, налог на недвижимость, коммунальные платежи, страховка для небольшой двухкомнатной квартиры — 100 евро в месяц. Средняя зарплата — 2344 евро.**

**Испания. Наши земляки пишут, что стоимость апартаментов зависит от того, что есть в вашем доме. Например, если есть бассейн, то такие квартиры дороже. Но даже в хорошем кондоминиуме с бассейном-садом квартплата где-то около 150 евро. При этом средняя зарплата — 1500 евро.**

**И вот она, головоломка для экономической науки. Беларусь покупает российский газ по цене в 2,5 раза ниже европейской; нефть — беспошлинно; зарплаты имеем в пять, шесть, семь раз ниже европейцев, но себестоимость жилищно-коммунальных услуг у нас почему-то оказывается на европейском уровне и даже выше.**

**Как так?**

**Может, у нас опахалами из павлиньих перьев улицы подметают? Хрустальными люстрами подъезды подсвечивают? Может, у нас дыры забивают золотыми гвоздями, а по канализационным трубам живой «Нарзан» течет?..**

**Тогда как мы умудрились получить «на выходе» европейский ценник на услуги ЖКХ? В каких вузах обучают таких экономистов-наперсточников?..**

**Люди пока только недоуменно чешут затылки, пытаясь разобраться, почему суммы к оплате, предъявляемые за газ, свет, коммуналку, становятся все больше, но одновременно, согласно рапортам чиновников, мы все больше остаемся этому государству должны. А вот промышленность уже взбунтовалась. Там тоже работают экономисты, и их тоже учили считать. Так, концерн «Белнефтехим» на этой неделе прямо обвинил энергетиков в необоснованном завышении тарифов. *«... энергетическая отрасль, несмотря на дешевый импорт природного газа и электроэнергии, принуждает промышленность работать по тарифам выше мирового уровня»,* — возмущаются нефтехимики в распространенном на днях пресс-релизе.**

**Обратите внимание на слова «выше мирового уровня»! Как можно умудриться из самого дешевого в Европе газа выработать самую дорогую в мире электроэнергию? Чудеса да и только!**

**Но это и есть главный вопрос, отвечая на который мы невольно процитируем сантехника из советского анекдота: «Тут не краны, тут всю систему надо менять».**

ТРАГЕДЫЯ

# Гінуць юныя спартсмены

*У мінулыя выхадныя на зборах у Стайках памёр 20-гадовы штангіст Яўген Шрамко.*



Жэня быў кандыдатам у зборную Беларусі і імкнуўся выступіць на чэмпіянаце Еўропы. Пасля трэніроўкі ў спартсмена спынілася сэрца.

*“Жэня скардзіўся на тое, што ў яго баліць у грудзях. Ён падыходзіў да доктара, узяў нейкія таблеткі і пайшоў у пакой адпачываць*, — распавёў адзін са штангістаў, які трэніраваўся разам з Яўгенам Шрамко. — *І пазней яго знайшлі ў нумары, ляжаў сіні, тварам у падушку...”*

Як паведамляе euroradio.fm, трагедыя адбылася 23 лютага ў спарткомплексе «Стайкі» пад Мінскам. Яўгену Шрамко было 20 гадоў, трэніраваўся ён у мінскай Спартыўнай дзіцяча-юнацкай школе алімпійскага рэзерву на вуліцы Берута. У юніёрскім узросце Яўген ставіў нацыянальныя рэкорды. А ў лютым 2012 года на дарослым Кубку Беларусі ён узяў чацвёртае месца, праз чатыры месяцы на чэмпіянаце краіны — трэцяе. Марыў прабіцца ў нацыянальную зборную па цяжкай атлетыцы, выступіць у красавіку на чэмпіянаце Еўропы.

*— Лёг спаць і не прачнуўся. Пасля анатаміравання сказалі: сардэчная недастатковасць. Здарылася нешта незразумелае. Я ведаю, што ён не піў, не курыў,* — кажа дзяржтрэнер па цяжкай атлетыцы **Міхаіл Захаранка**. — *У нацыянальную зборную ён не ўваходзіў, быў на зборах не па лініі Міністэрства спорту, а за кошт сваёй арганізацыі. У хлопца былі перспектывы, думалі яго браць у каманду, але... не паспелі. Каб памёр штангіст у такім маладым узросце — гэта ўпершыню, пра такое я нават не чуў.*

Родныя і сябры развіталіся з Яўгенам Шрамко ўчора. Дададзім, што 5 лютага гэтага года ў Рэспубліканскім вучылішчы алімпійскага рэзерву нечакана памёр 15-гадовы ігрок баскетбольнай кадэцкай зборнай Сяргей Жук. Ён у дзіцяча-юнацкай лізе выступаў за каманду «Цмокі-Мінск-97».

Па словах сяброў Сяргея, хлопцу стала дрэнна ў душы пасля трэніроўкі. Там ён і памёр...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КУЛУАРЫ

## *Дворец без искусства не жилец*

*Союз художников выиграл тендер на оформление «Дома приемов», который строится на проспекте Победителей.*

Название беру в кавычки, потому что официально стройка носит название «административное здание», и ни чиновники, ни архитекторы комментариев не дают, будто дали обет молчания на этом проекте, лишь подогревая нездоровые слухи о новом шикарном дворце (или резиденции президента?) в нашей столице. Так это или не так, но в любом случае «дворец» без искусства не жилец, и белорусские художники получили работу -- долгожданный государственный заказ на создание не просто картин, а именно хорошо узнаваемых пейзажей Беларуси. Таков общий замысел оформления объекта.

За последние десятилетия госзаказ такая редкость, что взбудораженный творческий коллектив чуть не вспомнил свое «славное» прошлое, когда «битва у кормушки» на десятилетия делила людей на друзей и врагов. Чтобы не поссорить коллег в трудное рыночное время, мудрое руководство союза решило действовать по справедливости: одна картина в одни руки. А дальше выбирает худсовет. Примерный (озвученный) гонорар -- около 300 долларов США за холст. Беспрецедентно мизерная цена для произведения искусства. В художественном салоне на проспекте так стоят обычно работы начинающих. Так что страсти утихли, не разгоревшись.

**Елена МОЛОЧКО.**

НУ І НУ!

# Без тэрміну даўнасці?

*Міліцыя Першамайскага раёна Мінска запатрабавала ад былога палітвязня Мікіты Ліхавіда адсядзець 10 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у мітынгу 19 снежня 2010 года.*

Нагадаем, што 20 снежня 2010 года Ліхавіда пакаралі за ўдзел у Плошчы 15 суткамі арышту, але 25 снежня хлопца перавялі ў следчы ізалятар па крымінальнай справе, па якой ён быў асуджаны ўжо на 3,5 года калоніі ўзмоцненага рэжыму. Датэрмінова Мікіта быў вызвалены ў верасні 2011 году.

Навіну пра тое, што Мікіта Ліхавід павінен самастойна прыйсці ў цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна і адбыць 10 сутак, яму паведаміў участковы.

Паводле яго слоў, прыйшла адпаведная папера з РУУС Першамайскага раёна, прычым не толькі на Ліхавіда, але на многіх адміністрацыйна пакараных, якія не адбылі свае тэрміны цалкам. Пры гэтым патлумачана, што тэрміну даўнасці па такіх прысудах няма, паведамляе Радыё Свабода.

— Калі ўчастковы сказаў, што мне трэба адсядзець яшчэ 10 сутак за адміністрацыйную справу 2010 года, гэта быў для мяне самы натуральны шок! — распавёў Мікіта “Народнай Волі”. — Зараз я ў Першамайскім судзе буду высвятляць, чым яны кіруюцца, калі адпраўляюць мяне на суткі па справе двухгадовай даўнасці.

**— Калі прыйдзецца ўсё ж такі ісці на Акрэсціна, калі думаеце гэта зрабіць?**

— У сакавіку, пасля святаў. Але, паўтаруся, я лічу такое рашэнне незаконным. Па-першае, з моманту вынясення прысуду прайшло больш за тры месяцы. Па-другое, я ўжо адсядзеў сваё. Буду шукаць справядлівасці.

**Алесь СІВЫ.**

КАДРЫ

# Кожны чацвёрты доктар паліклінікі — пенсіянер

Пра сітуацыю з медыцынскімі кадрамі ў сталічнай сістэме аховы здароўя гаварыў на выніковай калегіі старшыня камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама **Віктар Сірэнка**. Паводле яго слоў, сёння ў Мінску ўкамплектаванасць урачамі складае 77%. Кожны чацвёрты доктар у дарослых паліклініках пенсіённага ўзросту. 24% урачоў пенсіённага ўзросту працуюць на Гарадской станцыі хуткай медыцынскай дапамогі. Амаль такая ж карціна назіраецца ў дзіцячых паліклініках, дзе 22% урачоў працягваюць працаваць, хаця ўжо знаходзяцца на заслужаным адпачынку.

У гэтым годзе ў сталічныя арганізацыі аховы здароўя будуць размеркаваны амаль 500 выпускнікоў медыцынскіх ВНУ. Ці стане гэта рашэннем кадравага дэфіцыту ў паліклінічным звяне? У 2012 годзе ў Мінск былі размеркаваны 520 выпускнікоў-медыкаў, але, як прызнаўся Віктар Сірэнка, укамплектаванасць урачэбнымі кадрамі на ўзроўні 77% застаецца нязменнай апошнія 5 гадоў. Трэба разумець, што выпускнікі ўрачэбны дэфіцыт не “закрываюць”.

Дарэчы, нядаўна намеснік прэм’ер-міністра **Анатоль Тозік** прызнаўся, што кожны год з сістэмы аховы здароўя сыходзіць 1100—1200 урачоў, яшчэ 140—160 з’язджаюць за мяжу. Бягуць медыкі ў асноўным з першаснага звяна, дзе нагрузкі вышэйшыя, а заробкі малыя. *«Калі зрабіць пераразлік сярэднямесячнай зарплаты ўрачоў на адну стаўку, то яна складзе 3,5 млн рублёў, што на 17% ніжэй, чым па рэспубліцы ў цэлым”,* — гэта ўжо прызнанне старшыні Мінскага абкама прафсаюза работнікаў аховы здароўя **Аляксандра Шамаля**, якое прагучала на III пленуме прафсаюзнай арганізацыі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

НАПЯРЭДАДНІ

# Прыйшоў час расказаць...

*Сёння, 26 лютага, павінна адбыцца прэзентацыя кнігі журналіста Аляксандра Тамковіча “Жыццё пасля кратаў” — кнігі расказаў тых, хто быў арыштаваны пасля апошніх прэзідэнцкіх выбараў.*

Як высвятляецца, сенсацыйнае прызнанне ў інтэрв’ю для кнігі зрабіў кіраўнік перадвыбарнага штаба **Уладзіміра Някляева Андрэй Дзмітрыеў**. Нагадаем, што вельмі хутка пасля тых гарачых падзей збітага Дзмітрыева паказалі па Беларускім тэлебачанні. Ён выступіў з дзіўным “прызнаннем” пра тое, што міліцыя на калону Някляева не нападала і кандыдата ў прэзідэнты не збівала. Ніхто не мог зразумець, што значаць такія заявы, бо сведкамі і ахвярамі нападу былі шматлікія журналісты. І, па сутнасці, Дзмітрыеў спрабаваў абвергнуць тое, што на свае вочы бачылі дзясяткі людзей.

І вось Андрэй Дзмітрыеў патлумачыў свае паводзіны. *«Справа тут не толькі ва мне асабіста. Пад пагрозай знаходзілася мая сям’я. Мала хто ведае, што мая будучая жонка таксама была арыштавана КДБ і правяла там цэлы дзень”,* — расказаў Андрэй Дзмітрыеў.



*«Тое, што тады прагучала, нікому не пашкодзіла і не было накіравана ні на кога асабіста,* — кажа Дзмітрыеў. — *Па сутнасці, гэта быў паклёп на сябе самога».*

Дарэчы, “прызнанне” дапамагло: дзяўчыну Андрэя (а на дадзены момант — жонку) вызвалілі ўвечары пасля таго, як ён пагадзіўся прамовіць на тэлекамеры падрыхтаваны тэкст.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

НАДЗВЫЧАЙНАЯ СІТУАЦЫЯ

## *Маці і сын загінулі ў сваёй кватэры з-за выбуху бытавога газу*

*Жыхароў пацярпелага пад’езда на нявызначаны тэрмін перасялілі ў спецыяльны дом інвалідаў і гатэль Белдзяржцырка.*



У выніку выбуху загарэлася некалькі кватэр. Праз гадзіну пажар быў ліквідаваны, але бліжэйшыя памяшканні пацярпелі ад агню і вады. Выратавальнікі пачалі эвакуіраваць жыхароў дома, як толькі прыбылі на месца падзей. Гаспадары кватэры — 72-гадовая маці і яе 47-гадовы сын — загінулі на месцы. Па медыцынскую дапамогу звярнуліся пяць чалавек, чацвёра атрымалі ранкі. Адзін чалавек быў дастаўлены ў бальніцу з атручэннем.

Першую ноч пасля здарэння частка жыхароў пацярпелага пад’езда начавала ў сваякоў. Для тых, каму не было куды ісці, арганізавалі часовы прытулак у мясцовым дзіцячым садку.

Пакуль ідзе высвятленне акалічнасцяў здарэння, у пад’ездзе ўмацоўваюць апорныя канструкцыі. Прынята рашэнне рассяліць усіх пацярпелых у Дом састарэлых на вуліцы Ракасоўскага і гасцінічны комплекс, размешчаны па вуліцы Якубоўскага. Колькі людзям прыйдзецца там пражыць, пакуль не вядома.

**Марыя БУДНІК.**

І ТАК БЫВАЕ

## *Беларускі актывіст у судзе перамог літоўскіх памежнікаў*

*У панядзелак Вільнюскі акруговы адміністрацыйны суд ануляваў рашэнне Дэпартамента міграцыі, які забараніў уезд у Літву грамадзяніну Беларусі Мікалаю Уласевічу.*

Суд не знайшоў доказаў таго, што актывіст антыядзернага руху можа ўяўляць пагрозу дзяржаўнай бяспецы ці грамадскаму парадку, адзначае delfi.lt.

Нагадаем, Уласевіча запрасілі прыняць удзел у дыскусіі пра ядзерную энергетыку, якая праходзіла 23 верасня ў Вільнюсе, у літоўскім парламенце. Аднак літоўскія памежнікі не пусцілі актывіста, калі ён збіраўся перасекчы мяжу. Афіцыйных тлумачэнняў наконт забароны ўезду не прагучала.

Сам Уласевіч у пасяджэнні суда не ўдзельнічаў. Але яго адвакат кажа, што задаволены рашэннем суда. Дарэчы, суд прысудзіў на карысць Уласевіча 100 літаў выдаткаў на судовы разгляд (крыху менш за 40 долараў).

НЕРУХОМАСЦЬ

## *Квадратны метр у новабудоўлях будзе даражэць*

*Рэкордна нізкі кошт квадратнага метра ў мінскай новабудоўлі — 850 долараў зафіксаваны ў новым доме, які плануюць здаць у эксплуатацыю да канца 2016 года.*

Паводле слоў рыэлтара аднаго з агенцтваў нерухомасці, гэта самы нізкі кошт метра на першасным рынку, зафіксаваны з 2010 года. Пры гэтым з улікам спажывецкіх якасцяў новы дом нельга аднесці да катэгорыі танных аб’ектаў. *«Самымі бюджэтнымі прапановамі на першасным рынку заўсёды заставаліся «панэлькі», квадратны метр у якіх у цяперашні час каштуе прыкладна 1 тысячу долараў,* — паведамляе belta.by. — *У сваю чаргу кватэры-рэкардсмены па таннасці метра ўвойдуць у склад маналітна-каркаснага дома з палепшанымі спажывецкімі якасцямі».* Плануецца, што гэта будуць трох і чатырохпакаёвыя кватэры ў жылым доме з гандлёва-адміністрацыйнай і жылой часткамі, аб’ект таксама абсталююць падземнай стаянкай для жыхароў гэтага дома.

Як растлумачыў прадстаўнік забудоўшчыка, рэкордна нізкі кошт метра абумоўлены двума фактарамі — патрабаваннем да кліента цалкам аплаціць кватэру на працягу пяці банкаўскіх дзён з моманту заключэння дамовы і далёкім тэрмінам уводу дома ў эксплуатацыю — у чацвёртым квартале 2016 года.

У цяперашні час большасць кватэр, што рэалізуюцца ў новабудоўлях, знаходзяцца ў цэнавым дыяпазоне 1250—1380 долараў за метр квадратны. Гэта каркасна-блокавыя або маналітна-каркасныя дамы палепшаных спажывецкіх якасцяў. Прапаноў кватэр у «панэльцы», метр у якіх каштуе ў сярэднім 1 тысячу долараў, на парадак менш. Паводле ацэнак рыэлтараў, лік выстаўленых на продаж элітных новабудоўляў складае ўсяго 5—8% ад агульнага ліку прапаноў на першасным рынку. За «квадрат» у аб’ектах, размешчаных у прэстыжных мікрараёнах як, напрыклад, “Ржавец” (пасёлак Піянерскі), забудоўшчыкі просяць у сярэднім 2—3 тысячы долараў.

Да канца бягучага года, па прагнозах аналітыкаў, квадратны метр у новабудоўлях будзе даражэць у межах 10%.

АНОНС

## Александр ЛУКАШЕНКО:

## «Чтобы не скомпрометировать тех, кто рядом со мной, я решил уйти с должности»

*Интервью, которое дал Александр Лукашенко «Народной Воле», читайте на 7-й полосе.*

## У вас ёсць што прапанаваць музею?

*Прадстаўнікі Музея сучаснай беларускай дзяржаўнасці заклікаюць беларусаў прыносіць цікавыя рэчы, каб папоўніць экспазіцыю.*

У Музей дзяржаўнасці проста так з вуліцы не трапіш — трэба за тры дні да наведвання пакінуць заяўку з пашпартнымі данымі. Надзвычайная закрытасць выклікана тым, што месціцца музей у будынку рэзідэнцыі прэзідэнта. За паўгода працы музей наведала не так шмат людзей, таму зусім нечакана прагучала навіна аб тым, што музей шукае мецэнатаў.

Нягледзячы на тое, што ў вітрынах прадстаўлена каля 800 экспанатаў, а ў запасніках захоўваецца яшчэ каля трох тысяч, музейшчыкі просяць дапамогі ў грамадства.

*“Экспазіцыя павінна абнаўляцца рэгулярна, бо яна прысвечана сучаснаму жыццю краіны,* — распавёў “Народнай Волі” выконваючы абавязкі дырэктара музея **Сяргей Ісаковіч**. — *Напрыклад, нам было б вельмі прыемна атрымаць факсімільнае выданне полацкага Евангелля, якое прадставілі не так даўно на Міжнароднай кніжнай выставе ў Мінску...”*

Пакуль галоўныя пастаўшчыкі свежых экспанатаў — беларускія атлеты. Журналістаў спецыяльна запрасілі, каб прадэманстраваць не толькі ўзоры касцюмаў, што ў розныя гады насілі на Алімпіядах спартсмены, але і алімпійскія медалі фрыстайліста **Сяргея Грышына**, біятланіста **Аляксандра Папова,** плыўца **Ігара Бокія** і кубак чэмпіёнаў Беларусі па хакеі. Усе гэтыя прадметы перайшлі ў фонд музея.

Пакуль самымі цікавымі экспанатамі музея з’яўляюцца пашпарт **Аляксандра Лукашэнкі**, ракетка **Вікторыі Азаранка** і спартыўны касцюм **Дар’і Домрачавай**.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

НЕЗАШОРАНЫМ ВОКАМ

# Суд у Дзень роднай мовы

Зімовы поўдзень сярэдзіны 1980-х гадоў. Інтэрнацкі пакой на тагачаснай вуліцы Варвашэні, у якім мы жывём з маім калегам па аспірантуры Алегам Марозам, выпускніком Кіеўскага ўніверсітэта, які прыехаў у Мінск з Мазыра. Размаўляем між сабою па-беларуску, зрэдку практыкуемся ў французскай... Напярэдадні былі з ім на Траецкім прадмесці, бо Алег зацікавіўся “талакоўцамі”. “Талака” толькі што распачала сваю дзейнасць: беларускамоўныя хлопцы і дзяўчаты дапамагаюць археолагам праводзіць раскопкі. Далучаемся да іх. Не памятаю ўжо, з кім канкрэтна тады я пазнаёміў свайго сябра. Але пра адну асобу магу сказаць дакладна. Бачым хлопца ў тоненькай балоневай куртцы (на дварэ ладная мінусавая тэмпература). Знаёмімся. Высвятляецца, што гэта будучы скульптар, студэнт тагачаснага Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута.

— Кажуць, што вас завуць Генадзем...

— Не, я не Генадзь, я — Гэнік. І давай будзем на “ты”.

— Добра, будзем на “ты”.

Разгаварыліся, дамовіліся пра сустрэчу. Назаўтра ён прыйшоў у наш пакой на Варвашэні. Мы з Алегам запрасілі яго на гарбату.

— Можа, чаго мацнейшага пакаштуем?

— Не, спіртнога не ўжываю.

— Добра, грошы цалейшыя будуць...

Гэнік пачаў расказваць пра “Талаку”, пра найбліжэйшыя планы і задумы. “Галоўнае — гуртаваць моладзь, што спрабуе гаварыць па-беларуску, цікавіцца сваёй гісторыяй”. Сам ён яшчэ нежанаты і, здаецца, пра дзяўчат у гэтым плане асабліва гаварыць не жадае. Часам у сваіх разважаннях нязвыклы, нават экстравагантны. Спакойны і памяркоўны паводле сваёй натуры Алег Мароз, слухаючы Гэніка, разпораз пасміхаецца. Тым не менш знаёмства пакідае светлае ўражанне.

Далейшыя мае сустрэчы з Гэнікам Лойкам маюць хутчэй выпадковы характар: людзі з “Талакі” — нашы агульныя знаёмыя, аднадумцы, але я часцей сутыкаюся з літаратурна-творчымі асяродкамі. Разам з Сяргеем Шупам мы ладзім пасяджэнні нефармальнай суполкі маладых перакладчыкаў “Вавілон”. У пакоі №32 інтэрната на Акадэмічнай адбываюцца размовы з тагачасным аспірантам Інстытута літаратуры Акадэміі навук Алесем Бяляцкім, які вывучае наш досвед і плануе стварэнне творчай суполкі “Тутэйшыя”...

Пачынаюцца 1990-я гады, час велізарных мітынгаў, у тым ліку на “плошчы Леніна”. На нейкім з мітынгаў удаецца паразмаўляць з Гэнікам Лойкам. Ягоная галава поўная творчых планаў, дый, здаецца, ён нарэшце ажаніўся. Праходзіць нямала гадоў, і Гэнік прыводзіць свайго старэйшага сына паступаць у Беларускі гуманітарны ліцэй. Яраш Лойка робіць уражанне вельмі сур’ёзнага, нават засяроджанага хлопца; паступае лёгка, у групе робіцца ці не найлепшым вучнем. З бацькоўскіх сходаў ужо добра ведаю і спадарыню Алену, жонку Гэніка Лойкі. Потым у ліцэй прыходзіць і дачка Гэніка і Алены... Выключна беларускамоўныя старэйшыя дзеці, як падаецца, адчуваюць сябе ў ліцэі камфортна,




Гэнік і Алена актыўна працуюць у бацькоўскай радзе ліцэя. Але ж беларускі ліцэй пачынаецца толькі з восьмага класа...

Гэнікаў малодшы сын тым часам ходзіць у адну з гімназій горада Мінска, што лічыцца беларускамоўнай. Прыходзячы ў гімназію з розных нагод, бацькі бачаць: шмат у чым гэтая беларускамоўнасць фармальная. Гэнік Лойка вядзе размовы з дырэкцыяй, з настаўнікамі; часцей за ўсё на яго там глядзяць як на дзівака, прычым дзівака нязручнага і назойлівага.

21 лютага ў свеце адзначаецца Дзень роднай мовы. У сёлетні такі дзень Гэнік Лойка з самай раніцы прыходзіць да будынка гімназіі з плакатам, на якім прыгожымі літарамі выведзена: “Віншуем з Днём роднай мовы...” У другой фразе гаворыцца пра тое, што гімназія, дзе вучыцца Лойка-малодшы, “была апошняй беларускамоўнай гімназіяй”. Усё. Больш нічога на плакаце не змясцілася. Гэнік Лойка ўторквае абодва дрэўкі, на якіх мацуецца плакат, у снег паводдаль будынка гімназіі. Але ж якое пільнае вока сочыць за наваколлем навучальнай установы! Гэта ж не за аўтамабілямі сачыць, што часам ствараюць смяротную небяспеку, гойсаючы перад школамі. “Пільнае вока” даносіць у міліцыю. Гэніка Лойку хутка арыштоўваюць, вязуць у невядомае месца. Жонка Алена і сястра Валянціна больш як паўтары гадзіны не могуць знайсці й следу па ім, аж нарэшце высвятляецца, што Гэнік знаходзіцца ў адным з мінскіх РУУС. Па абедзе скульптара Лойку прывозяць у суд. Судзіць яго як бы няма за што: на злашчасным плакаце было толькі віншаванне, інфармацыя і ніякіх заклікаў ці патрабаванняў. Нават пры сённяшнім рэпрэсіўным заканадаўстве гэта пад ніякі пікет ці маніфестацыю не падгоніш. Але міліцыянеры з тыпова беларускімі прозвішчамі пішуць у сваім рапарце, нібыта Гэнік Лойка перад будынкам школы “выказваў недавер існуючай уладзе” і (ах, які жах!) крычаў: “Гаварыце па-беларуску!”

Суддзя Людміла Лапо адмаўляецца весці працэс на дзяржаўнай беларускай мове, патрабуе, каб на рускую мову перайшла нават адвакат абвінавачанага. Між іншым у артыкуле 22 дзейнай Канстытуцыі запісана: “Усе роўныя перад законам і маюць права *без усякай дыскрымінацыі* на роўную абарону правоў і законных інтарэсаў”. Вось жа, беларускамоўнаму Генадзю Лойку 21 лютага г.г. было адмоўлена ў праве быць недыскрымінаваным паводле моўнай прыкметы. І гэты выпадак — далёка не выключны, а хутчэй тыповы ў найноўшай гісторыі Беларусі...

Суддзя прысудзіла выдатнаму скульптару і клапатліваму бацьку пяцісуткавае зняволенне. Думаючы, напэўна, што яны тым самым прынізяць яго. Не прынізяць. За прыклад будучым пакаленням будзе жыццё такіх людзей, як Гэнік Лойка, а не існаванне сучасных тутэйшых кручковых.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## *Следчыя не жадаюць адпускаць з-пад варты Юрыя Данькова*

*Упраўленне Следчага камітэта па Мінску накіравала ў цэнтральны апарат СК хадайніцтва аб падаўжэнні тэрміну следства па справе ўладальніка Dankoff Club Юрыя Данькова і тэрміну ўтрымання яго пад вартай.*



Пра гэта паведаміў афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінску Аляксандр Герасімаў.

Апошні раз следства было падоўжана да 22 лютага. Цяпер яго падоўжылі яшчэ на тры месяцы. Ці зменяць Данькову меру стрымання, стане вядома праз некалькі дзён.

Данькоў быў затрыманы 4 верасня 2012 года. У гэты дзень у Dankoff Club правяліператрус і іншыя следчыя дзеянні ў межах крымінальнай справы, узбуджанай напрыканцы жніўня Следчым камітэтам у дачыненні да мастацкага кіраўніка і адміністратара ТАА Dankoff Club. Яны падазраюцца ў тым, што з 2006 года выкарыстоўвалі памяшканні ў клубе для заняцця прастытуцыяй. Дзеянні службовых асоб кваліфікаваны па ч.2 арт.171 КК. Мастацкі кіраўнік Dankoff Club затрыманы.

7 верасня Данькову было прад’яўлена абвінавачанне ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч.2 арт.171 КК (выкарыстанне заняцця прастытуцыяй ці стварэнне ўмоў для заняцця прастытуцыяй, учыненыя службовай асобай з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў), піша БелаПАН.

ТЕНДЕНЦИИ

## *Только 0,1% белорусов считают себя богатыми*

*Об этом со ссылкой на данные социологического мониторинга Института социологии Национальной академии наук сообщил доктор социологических наук, профессор Игорь Котляров. При этом, по его словам, в данной категории опрошенных нет женщин.*

*К людям со средним достатком себя причисляют 57% белорусов. Порядка 35% жителей Беларуси считают себя бедными или даже нищими, 7—8% затруднились ответить на вопрос.*

Как подчеркнул Котляров, речь идет именно **о восприятии белорусами собственной финансовой состоятельности, а не о реальных доходах**. Так, *«старушка в заброшенной деревне в телогрейке, с козой и поросенком»* ответила, что у нее средний достаток, тогда как некоторые банковские работники могли утверждать, что они бедные.

По словам специалиста, изучение восприятия финансовой состоятельности населения дает ответ на многие вопросы. *«Люди, которые считают себя богатыми и со средним достатком, не пойдут на демонстрации и забастовки. Они боятся потерять то, что есть. Они более законопослушны, они уважают закон, власти. И в то же время те, которые считают себя бедными, более радикально настроены»,* — цитирует Котлярова БелаПАН.

Он отметил, что с 1990 года, когда начали проводиться такие опросы, растет число белорусов, которые считают себя людьми со средним достатком. Исключение составляют те годы, когда отмечались кризисные явления в экономике Беларуси. *«Здесь возникает вопрос: или мы привыкаем к тому, как живем, или нам действительно становится жить лучше»,* — прокомментировал директор Института социологии НАНБ.

З НАВАСЕЛЛЕМ!

## Прэзідэнцкі нумар у “Прэзідэнт-атэлі” будзе каштаваць 2400 долараў у суткі

***У бліжэйшы час у Мінску павінна адкрыцца гасцініца, якую называюць “галоўным аб’ектам гасцінічнай індустрыі сучаснай Беларусі”.***

Рашэнне аб рэканструкцыі гасцініцы “Кастрычніцкая” ў пяцізоркавы “Прэзідэнт-атэль” было прынята летам 2010 года.

Паведамлялася, што атэль будуе турэцкая кампанія, якая прыцягвае крэдытную лінію “ТуркЭксімбанка”. Крэдыт у суме 50,9 млн долараў быў выдадзены “Беларусбанку” для РУП «Атэль «Мінск», які і з’яўляўся заказчыкам будаўніцтва.

Трэба сказаць, што ад былой гасцініцы “Кастрычніцкая”, якая ўзводзілася да Алімпійскіх гульняў 1980 года, за час рэканструкцыі не засталося амаль нічога. Новы атэль узводзіўся практычна з нуля.

Дарэчы, “Прэзідэнт-атэль” павінен быў запрацаваць яшчэ ў мінулым годзе. Яго адкрыццё спачатку планавалі на ліпень, затым — на лістапад, снежань... Але планы пастаянна мяняліся, нешта даводзілася дапрацоўваць, узгадняць. І, улічваючы “стратэгічнасць” аб’екта, вырашылі не гнаць коней, а

Нумар класа прэміум.

Прэзідэнцкі нумар.

падысці да будаўніцтва грунтоўна. Напрыклад, не так даўно МНС менавіта ў гэтым атэлі праводзіла свае вучэнні.

Што ж прапануе атэль сваім пастаяльцам?

Тут будуць два жылыя корпусы ў 11 і 9 паверхаў на 154 нумары. На афіцыйным сайце атэля кошты на пражыванне пазначаны наступныя: двухмесны 1-пакаёвы нумар (прэміум) — 300—320 долараў у суткі, двухмесны 1-пакаёвы (два ложкі) — 340, двухмесны 2-пакаёвы (люкс) — 480, трохпакаёвыя апартаменты — 660—740 долараў.

Ёсць і прэзідэнцкі VIP-нумар плошчай 500 кв. м з уласнымі саўнай, барам, басейнам і асобным ліфтам. Нумар знаходзіцца на 10-м паверсе і будзе каштаваць 2400 долараў за суткі пражывання.

У атэлі ёсць 3 рэстараны, 5 бараў, банкетныя залы. Для правядзення буйных мерапрыемстваў прадугледжаны амфітэатр на 600 месцаў. Да паслуг кліентаў — SPA-цэнтр, два бассейны (на 10 і 25 м), турэцкая лазня, більярдная, трохузроўневы падземны паркінг.

На другім паверсе знаходзіцца комплекс канферэнц-залаў. Дарэчы, там жа — і круглая зала для вядзення перамоў на вышэйшым узроўні.

Плошча атэля пасля рэканструкцыі складае 38.600 м$^2$ — амаль у тры разы больш, чым была “Кастрычніцкая”.

Як стала вядома “Народнай Волі”, зусім верагодна, што “Прэзідэнт-атэль” запрацуе ўжо ў сакавіку. Зараз там наносяцца апошнія штрыхі...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**
**Фота аўтара і з сайта «Прэзідэнт-атэля».**

ЭКАНОМІКА

## Беларусь ізноў збіраецца ў Сусветную гандлёвую арганізацыю

*Беларусь адновіць перамовы аб уваходжанні ў Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА) у сакавіку-красавіку 2013 года.*

*Пра гэта паведаміў намеснік міністра замежных спраў* ***Аляксандр Гур’янаў.***

Ён патлумачыў, што перапынак у перамовах быў звязаны са зменай старшыні рабочай групы па ўваходжанні Беларусі ў СГА. Новым яе кіраўніком прызначаны прадстаўнік Турцыі, які змяніў свайго суайчынніка.

*«Мы распаўсюдзілі ўсе неабходныя матэрыялы для наступнага пасяджэння групы. Думаю, да канца першага квартала — пачатку другога павінны ў Жэневе сустрэчу правесці. На ўзроўні ўдзельнікаў рабочай групы пярэчанняў і перашкод для правядзення пасяджэння няма»,* — сказаў намеснік міністра.

Раней планавалася правесці пасяджэнне рабочай групы да канца 2012 года, аднак графік давялося падкарэкціраваць у сувязі з тым, што кіраўнік рабочай групы, які прызначаецца ад імя краін СГА, завяршыў свае паўнамоцтвы ў Жэневе.

Працэс па далучэнні Беларусі да СГА доўжыцца ўжо больш за 17 гадоў. У чэрвені 2009 года Беларусь, Казахстан і Расія раптоўна аб’явілі аб уваходжанні ў СГА адзінай мытнай тэрыторыяй. Усе тры краіны прыпынілі двухбаковыя перамовы аб далучэнні да арганізацыі на час правядзення кансультацый па фарміраванні адзінай пазіцыі Мытнага саюза. Аднак ужо ў кастрычніку 2009 года было заяўлена, што Беларусь, Казахстан і Расія адновяць перамовы аб далучэнні да СГА паасобку, але на ўзгодненых пазіцыях.

Расія стала членам СГА ў жніўні 2012 года. У кастрычніку таго ж года А.Лукашэнка заявіў, што вострая неабходнасць уваходжання Беларусі ў СГА адпала пасля ўваходжання туды Расіі, паведамляе БелаПАН.

СУСТРЭЧЫ

*Анастас СЕМЯНОВІЧ:*

## “Хачу, каб маім унукам не было сорамна”

*Анастас Лявонцьевіч Семяновіч — даўнішні падпісчык “Народнай Волі”. З ліпеня 1995 года і па сёння не прапусціў ніводнага нумара: чытае, аналізуе, спрачаецца. “Калі б не вольны голас вашай газеты, — кажа, — даўно б душа спарахнела, счарсцвела, як тая порхаўка. А так — і восемдзясят не гнуць карак...”*

*Дык хто вы, шаноўны чалавек? Што сілкуе ваша няўрымслівае сэрца? Скуль маладзецкая энергія?*

Еду ў пасёлак Бараўляны, у Бярозавы гай... Так завецца вуліца, усцяж яе вышнураваліся сучасныя дамы — белакаменныя, двухпавярховыя, з каляровымі дахоўкамі. Адна з сядзіб — у абрамленні пірамідальных туй і беластволых бяроз — і належыць Анастасу Лявонцьевічу. На падворку — сам гаспадар і ягоная трынаццацігадовая аўчарка Том — любіміца ўсёй сям’і.

Не чакаючы пытанняў, Анастас Лявонцьевіч пачаў сам:

*— Ведаеш, братка, чым далей жыву і пазіраю на цяперашніх начальнікаў краіны, тым больш паважаю братоў нашых меншых. Не сам прыдумаў, але напраўду — ісціна. З аднаго боку, яны спраўна нясуць службу свайму гаспадару — і гэта нават нядрэнна. Але з другога боку — ці таму гаспадару служаць?..*

І тут Анастас Лявонцьевіч, як і належыць мудрым старцам, расказвае мне цікавую — з падтэкстам — гісторыю.

Семяновічы спрадвеку жылі пад Слуцкам, непадалёку ад вёскі Лучнікі — засценак называўся Сахалін. Бацька Анастаса — Лявон Фёдаравіч — пры Мікалашку служыў у 4-м лейб-гвардыі Паўлаўскім палку ў Піцеры, нёс ахову самога цара. А перад Другой сусветнай быў ужо пры Георгію Жукаве — будучы маршал камандаваў тады дывізіяй, якая стаяла ў Слуцку. Былы лейб-гвардзеец быў у Жукава за інтэнданта. Перад тым як пакінуць Слуцк, Жукаў падарыў яму каня і штабную аўчарку Рэкса. Калі немцы атабарыліся ў навакольных вёсках, пачалі наводзіць свой парадак. Як згледзелі тую аўчарку, тут жа канфіскавалі.

*— І што ты думаеш?* — разводзіць рукамі дзядзька Анастас. — *Збег Рэкс ад фрыцаў, прыйшоў дахаты. І так паўтаралася тры разы... Апошні раз сышоў перад самым іх адступленнем — змарнелы, худы, як таран, і паўжывы. Прыклыпаў на двор, лёг на ганак і сканаў. Сабачым розумам дапяў, дзе тая варажнеча, а дзе сваё, крэўнае...*

*А коніка злямзілі... партызаны. Прыйшлі ноччу, далі таўхаля бацьку, бо той пачаў было пра падарунак Жукава, ды ўсё дарэмна — у лес нашага карміцеля і звялі... Скралі, можна сказаць, па-бандыцку, ці як тыя цыганы...*

— Анастас Лявонцьевіч, а чаму вы ўсё праўду шукаеце, за дэмакратыю стаіце, на дэманстрацыі пад бел-чырвона-белым сцягам ходзіце? За такое цяпер па галоўцы не гладзяць, могуць і ў галаву даць...

*— Яшчэ як могуць*, — пагаджаецца стары. — *Гадоў восем таму так агрэлі, што ў шпіталі месяц праляжаў. Падцікавалі “цэрберы” ўранні, напалі ззаду ды і праламалі чэрап у двух месцах. Хто? Думаю, служкі рэжыму, тыя, хто і матку з бацькам не пашкадуюць — абы “гаспадар” загадаў. А начальнічкі-халуі загадваюць, бо ім не па нутры, калі сумленныя людзі за праўду стаяць, за вольнасць змагаюцца. От і выслужваюцца, небаракі... Ад іхніх “подзвігаў” будзе пагана дзецям іхнім ды ўнукам. А я хачу, каб маім унукам не было сорамна — ні за бацькоў, ні за дзеда, ні за прадзеда. Хачу, каб Беларусь нарэшце перастала слугаваць царам іншаземным, не кажучы пра сваіх “напалеончыкаў”. Ведаеш, прасцей за ўсё — забіцца ў куток, заплюшчыць вочы і плакацца ў анучку: маўляў, такі наш лёс. Лухта гэта! Пераканаены на сто працэнтаў, што краіна наша стане іншай. Хацелася б дажыць да гэтай светлай часіны. Таму і чытаю “Народную Волю”, таму і слухаю голас “Свабоды”, таму і выходжу на Плошчу...*

**Выслухваў Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**



З унукамі.

